© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014


# наша свабода

№25(112) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

2 САКАВІКА 2001 года ПЯТНІЦА



Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com


КОШТ СВАБОДНЫ




## Сямёна Домаша абшукалі з галавы да ног

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

27 лютага ў 21.30 на памежным пераходзе Брузгі быў часова затрыманы С.Домаш, які з'яўляецца верагодным удзельнікам будучых прэзідэнцкіх выбараў Рэспублікі Беларусь.

Мытнікамі быў старанна агледжаны аўтамабіль, на якім С.Домаш следаваў у Польшчу. Яны таксама абшукалі самога палітыка – яго верхняе адзенне, споднюю бялізну і чаравікі. Нічога забароненага не знайшлі. Догляд адбываўся дзве гадзіны. ■

## Грамадзе стукнула 10

**Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ**

3 сакавіка першая Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя святкуе 10-гадовы юбілей. У Палацы мастацтваў а 15-й гадзіне Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада) праводзіць святочны сход да дзесятай гадавіны Устаноўчага з'езда БСДГ, які стаўся адраджэннем сацыял-дэмакратыі на Беларусі. Пасля афіцыйнай часткі адбудзецца канцэрт барда Алеся Камоцкага ды гурта «Контрданс». Уваход вольны. ■

## Гаспадарчыя сцёкі трапілі ў Дзвіну

**Юрась ДУБІНА**

27 лютага ў Віцебску здарыўся разрыў 600-міліметровага дзюкера, які праходзіць па дне ракі Заходняй Дзвіны. За суткі, паводле падлікаў спецыялістаў, у раку магло трапіць каля 30 тысяч кубаметраў гаспадарчых сцёкаў — амаль трацiна штосутачных сцёкаў горада.

Гарадскія ўлады Полацка, праз які Дзвіна цячэ вышэй Віцебска, распарадзіліся стварыць запасы пітной вады, бо каля 40% водазабора ў Полацку прыпадае на раку. ■

# Фермерства не баіцца харчовай пагрозы



Фота IREX/ProMedia

VIII з'езд Саюза фермераў Беларусі. Мінск, канферэнц-зала гатэля «Беларусь», 28 лютага

**Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ**

Пра стан фермерства ў краіне ішла гаворка 28 лютага на з'ездзе Саюза фермераў. Калі верыць прыведзеным на з'ездзе лічбам, то стан фермерства на Беларусі стабілізаваўся, умацавалася матэрыяльная база гаспадарак ды адбылося іхняе пашырэнне. Так, на сённяшні дзень некаторыя землеробы маюць у валоданні да 2.000 га зямель ворыва – гэта плошча ці не цэлага калгаса. Адным з пачынальнікаў гэтага працэсу стаў фермер з Віцебскага раёна Уладзімір Рошчынскі.

На з'ездзе было канстатавана, што за 10 мінулых гадоў беларускаму фермерству ўдалося многае: дабіцца спрошчанай сістэмы падаткаабкладання, наладзіць пастаянны абмен інфармацыяй праз семінары, усталяваць пастаянныя і трывалыя кантакты з фермерскімі арганізацыямі за мяжой: Расіі, Польшчы, краінаў Балтыі, Злучаных Штатаў Амерыкі, Швецыі.

Фермеры, аб'яднаныя ў Беларускі саюз фермераў на чале з Канстанцінам Ярмоленкам, цяпер не баяцца застаца сам-насам з тым морам праблемаў, якія штодня ім прыходзіцца вырашаць. ■

# Беларусь: парушэнне на парушэнні

**У мінулы панядзелак Дзяржаўны дэпартамент ЗША прадставіў публіцы справаздачу аб парушэнні правоў чалавека ў свеце ў 2000 годзе. Шмат старонак там было прысвечана Беларусі.**

**Прапануем Вашай увазе ўрыўкі са справаздачы Дзярждэпартамента.**

## Агульная частка

«У Беларусі існуе такая форма кіраўніцтва, пры якой практычна ўся ўлада сканцэнтраваная ў руках прэзідэнта і маленькай купкі ягоных дарадцаў. З моманту абрання яго прэзідэнтам краіны ў ліпені 1994 года на працягу пяці гадоў тэрмін Аляксандр Лукашэнка сканцэнтраваў уладу выключна ў руках выканаўчай галіны, карыстаючыся аўтарытарнымі метадамі. Ён выкарыстаў рэферэндум у лістападзе 1996 года, каб дапоўніць Канстытуцыю 1994 года – з мэтай пашырыць свае паўнамоцтвы і падоўжыць час свайго знаходжання пры ўладзе. Лукашэнка ігнараваў рашэнне тагачаснага Канстытуцыйнага суда аб тым, што Канстытуцыя не можа быць папраўленая шляхам рэферэндуму. У выніку цяперашняя палітычная сістэма базуецца на Канстытуцыі 1996 года, якая была прынятая неканстытуцыйным шляхам. Большасць прадстаўнікоў міжнароднай супольнасці рэзка крытыкавалі сумнавядомы рэферэндум і не прызналі законнасць Канстытуцыі 1996 года, новага заканадаўчага органа, а таксама падаўжэння прэзідэнцкага тэрміну Аляксандра Лукашэнкі, які мусіў скончыцца ў ліпені 1999 года.

Парламенцкія выбары, што прайшлі ў кастрычніку, былі першымі пасля рэферэндуму 1996 года. Арганізацыя па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ)/Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) зрабілі выснову, што гэтыя выбары мала адпавядалі міжнародным стандартам і не былі ні свабоднымі, ні справядлівымі. Заканадаўчы орган, які скончыў сваю працу ў лістападзе 2000 года, быў абраны не прамым шляхам, але быў сабраны з рэшткаў былога парламента, які Лукашэнка разагнаў неўзабаве пасля рэферэндуму 1996 года...

Падтрыманне законнасці і адказнасць за ўнутраную бяспеку падзеленыя паміж Камітэтам дзяржаўнай бяспекі (КДБ) і міністэрствам унутраных справаў (МУС), абодва гэтыя органы нясуць адказнасць непасрэдна перад прэзідэнтам. Цывільныя ўлады не маюць эфектыўных сродкаў кантролю за сіламі бяспекі. Пад кіраўніцтвам Лукашэнкі прэзідэнцкая ахова – першапачаткова створаная для аховы вышэйшых асобаў – працягвала дзейнасць супраць палітычных ворагаў Лукашэнкі, без аніякага юрыдычнага або заканадаўчага надзору. 25 сакавіка 1999 года пачаў дзеянне закон аб Дзяржаўнай ахове. Закон, якім фактычна ўжо кіраваліся да гэтага на працягу некалькіх гадоў, дае прэзідэнту права падпарадкаваць усе сілы бяспекі сабе асабіста. Прадстаўнікі сілавых структураў учынілі шматлікія парушэнні правоў чалавека...

Улады практычна не адсочваюць стан з правамі чалавека, і ў шмат якіх галінах становішча яшчэ пагоршылася. Улады жорстка абмяжоўвалі правы грамадзянаў мяняць свой урад, і Лукашэнка пайшоў на жорсткія захады, каб нейтралізаваць палітычных апанентаў. Улады не прыклалі сур'ёзных намаганняў, каб расследаваць знікненні вядомых апазіцыйных палітыкаў, што адбыліся летась. Сілавыя структуры працягвалі збіваць палітычных апанентаў і зняволеных. Сілы бяспекі незаконна арыштоўвалі і затрымлівалі грамадзянаў, і колькасць відавочна палітычна матываваных арыштаў павялічылася, хоць шмат хто з арыштаваных быў хутка выпушчаны на волю. Спецслужбы парушалі правы людзей на асабістае жыццё і ўважліва адсочвалі дзейнасць апазіцыйных палітыкаў і іншых слаёў насельніцтва. Жорсткія абмежаванні свабоды слова, прэсы і мірных сходаў зноў мелі месца, і ўлады не паважалі свабоду асацыяцыяў. Сакрэтныя ўрадавыя агенты ўважліва адсочвалі дзейнасць назіральнікаў за правамі чалавека і перашкаджалі іхнім высілкам. Ціск супраць рымска-каталіцкай і пратэстанцкіх цэркваў, як і побытавы антысемітызм, усё яшчэ існуюць. Улады працягвалі жорстка абмяжоўваць правы працоўных свабодна збірацца, арганізоўвацца і весці перамовы з наймальнікамі.

## Частка 1. Правы чалавека
## b) Знікненні

«На працягу апошніх гадоў адбылося некалькі знікненняў апазіцыйных асобаў. Апаненты рэжыму зніклі ўжо даўно, і асаблівых высілкаў уладаў па іхнім пошуку практычна не бачна. Назіральнікі па правах чалавека мяркуюць, што іх забілі за ўдзел у палітычнай дзейнасці... ▶

*Заканчэнне на стар.3*

## НАВІНЫ

■ **Савет міністраў Беларусі ўстанавіў з 1 сакавіка 2001 года памер мінімальнай зарплаты на ўзроўні 5.700 рублёў, а тарыфнай стаўкі 1-га разраду – 11.500 рублёў.** Павышэнне МЗП склала 58,3%, тарыфнай стаўкі 1-га разраду — 59,7%. Папярэдняе змяненне памеру мінімальнай зарплаты і тарыфных ставак было летась 1 кастрычніка. За прамінулыя 5 месяцаў спажывецкія цэны ўзраслі на 26%, а курс долара ЗША — на 20%.

■ **Учора ў Францыі пачаўся незвычайны судовы працэс.** 53 грамадзяніны краіны падалі ў суд калектыўны іск супраць французскага ўрада. У якасці віны ўрада называюцца наступствы аварыі ў Чарнобылі. Французы мяркуюць, што былое кіраўніцтва краіны не прадпрыняло належных захадаў пасля аварыі на ЧАЭС для абароны насельніцтва ад радыяактыўнага воблака, якое з'явілася над Францыяй. У выніку, па словах адваката 53 істцоў, іхняя хвароба – рак шчытавіднай залозы – выкліканая менавіта гэтым воблакам.

■ **5 сакавіка ў Мінск з трохдзённым візітам прыязджае дэлегацыя парламенцкай «Тройкі» еўрапейскіх арганізацыяў – Парламенцкай асамблеі Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе, Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы і Еўрапейскага парламента.** Як паведаміла Кансультатыўна-назіральная група АБСЕ ў сваім прэс-рэлізе, мэта прыезду «тройкі» – спрыянне стварэнню дэмакратыі ў Беларусі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў. У склад тройкі ўваходзяць Адрыян Севярын – старшыня ПА АБСЕ, Тэры Дэвіс – старшыня Палітычнага камітэта ПА СЕ і Ян Марыус Віерсма – кіраўнік Арганізацыі для стасункаў з Украінай, Беларуссю і Малдовай Еўрапарламента.

■ **Моцны выбух адбыўся ў гаражным масіве на вул. Каліноўскага ў Мінску, паведаміла радыё «Рацыя».** У выніку інцыдэнту разбураныя пяць прыватных гаражоў, пацярпелі тры аўтамабілі, адна жанчына-гаспадарыня гаража трапіла ў шпіталь з апёкам 70% цела, адзін з выратавальнікаў таксама атрымаў моцныя апёкі цела і твару. Падчас тушэння пажару выбухнуў 20-літровы бак з бензінам.

■ **Днямі быў арыштаваны выконваючы абавязкі кіраўніка гандлёвай інспекцыі Камітэта дзяржаўнага кантролю нехта Букатаў.** Пра гэта рапартаваў Аляксандру Лукашэнку генеральны пракурор Віктар Шэйман. Як адзначаецца, кантралёр абвінавачваецца ў атрыманні хабару ў памеры 2.000 долараў ад прадстаўнікоў камерцыйных структураў. Санкцыю на арышт выдала пракуратура Мінскай вобласці.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru


**ПАДПІСКА НА НАШУ СВАБОДУ!**

Каб не шукаць кожную раніцу нашу газету ў шапіках, падпішыся на яе цяпер! Падпіска на НАШУ СВАБОДУ магчымая праз пошту! У любым аддзяленні сувязі патрабуйце падпісны каталог з індэксам НАШАЙ СВАБОДЫ.

Кошт падпіскі на месяц – 1.040 рублёў. Наш падпісны індэкс – 63478.


**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»** 1250

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



ЭКСПРЭС

## Прогнозы, долги, расчеты

Андрей КАРПОВИЧ

**Хозяйственные суды Беларуси в 2000 году взыскали с должников около 30 млн. долларов**

В минувшем году судьями хозяйственных судов Белоруссии было принято к производству и разрешено около 10 тыс. дел, заявил председатель Высшего хозяйственного суда страны Владимир Бойко на пленуме ВХС. Почти 90% рассмотренных дел составили споры имущественного характера. В частности, с должников было взыскано свыше 39,7 млрд. белорусских руб. (около 30 млн. долл.).

**В марте на белорусских нефтеперерабатывающих заводах начнутся перебои с «черным золотом»**

Белорусские НПЗ за 11 дней февраля текущего года переработали 427 тысяч тонн нефти, то есть 87% к аналогичному периоду февраля минувшего года. Основной причиной сокращения переработки углеводородного сырья стало снижение объемов поставок российской нефти. Например, на 12 февраля 2001 года в Беларусь поставлено 409 тысяч тонн, или 85% от аналогичного периода февраля 2000 года. Как считают независимые эксперты, сокращение поставок нефти в Беларусь произошло не столько из-за отсутствия необходимого количества валюты у концерна «Белнефтехим» закупать у России нефтяное сырье, а в основном из-за ввода на территории Беларуси экспортной таможенной пошлины на вывоз нефтепродуктов. Уже в марте появятся существенные проблемы с наличием нефти на заводах, поскольку российским коммерческим структурам невыгодно будет ее перерабатывать в Беларуси. ■

# Обещанного три года ждут

## А обещанные квартиры – лет десять

Дмитрий БУЛАЙ

**Сегодня в Беларуси остро нуждаются в улучшении жилищных условий свыше 630 тысяч семей (состоят на учете), из них 213 тысяч – молодые семьи. Существует «старая» квартирная очередь, но на бесплатную раздачу квартир уже никто из очередников не надеется. Многие мечтают хотя бы «влезть» в какой-нибудь строительный кооператив, внести свои собранные деньги и, получив от государства кредит, построить себе жилье. Но не все так гладко...**



Таково состояние дома для «медика»

В 1996 г. в день «заботы о молодежи» А.Лукашенко издал указ № 358 «Об улучшении жилищных условий молодых семей». Тогда стали выделяться кредиты, началось строительство. Многие бесквартирные наивно воспряли духом. Поверили в благие намерения государства и некоторые медицинские работники и учителя Жодино. В мае 1997 года они основали свой, чисто «бюджетный», молодежный жилищно-строительный кооператив, назвав его МЖСК-9 «Медик». Первые проблемы не заставили себя долго ждать...

Практически сразу же встал вопрос о выборе генерального подрядчика. Все подрядные строительные организации Жодино были задействованы на других объектах. Поэтому управление по капитальному строительству (УКС) Жодинского горисполкома «сосватало» в этих целях столичное ЗАО «Стройэнергокомерц». За неимением лучшей кандидатуры члены МЖСК-9 «Медик» вынужденно согласились.

Фактически строительство их 72-квартирного, 9-этажного жилого дома началось в июле 1998 года. Самого генподрядчика на объекте никто не увидел. Сменяя друг друга, здесь «в поте лица» трудились пять субподрядных организаций – ООО «Гранстрой», АУМ-87, СУМ-96, ПППСМ «Монолит», ООО «Стройтехинвест». Одни рыли котлован, другие вбивали сваи, третьи их обрезали и т.д.

Выполнялись работы тоже не без проблем. В первую очередь, из-за того, что участок под строительство жилого дома был отведен в месте, где ранее стояло болото. Помимо того, и ЗАО «Стройэнергокомерц», и привлеченным организациям помимо основных затрат МЖСК-9 «Медик» вынужден был дополнительно возмещать непредвиденные командировочные расходы, перевозку рабочих и т.д.

С горем пополам до конца 1999 г. был наполовину возведен первый этаж здания. На этом работы застопорились. Под открытым небом оказались неиспользованные стройматериалы на сумму в 2.322 тысячи деноменированных рублей, в ценах 1999 года. Сейчас эти материалы постепенно разворовываются, и, чтобы хоть как-то спасти их, кооператив нанял троих сторожей и выплачивает им по 20 тысяч в месяц.

Кроме того, членам кооператива из своего кармана приходится оплачивать простой башенного крана (еще по 4,5 тысячи «с носа»).

Главная же проблема заключается в государственном кредитовании: даже в процессе строительства оно покрывало только 50% необходимых затрат, а после того, как закончились деньги кооператива, сразу же иссякла и финансовая помощь государства.

Весь 2000 год «Медик» в числе первых стоял в графике кредитования, который составляется на год УКСом Минского облисполкома. Выделение кредита было запланировано сначала на март 2000 года, затем, после корректировки графика, – на май, и т.д. – до сентября. Всякий раз что-нибудь «мешало». Весной деньги ушли на посевную, летом – на подготовку к «борьбе с урожаем», осенью – на палаточные выборы.

Официально свои отказы Миноблисполком мотивировал то отсутствием у объекта кредитуемых нужной строительной готовности, то необходимостью перекинуть все оставшиеся средства на финансирование вводных объектов.

Вводным считается объект, достигший 50% готовности. Например, строят жилой дом работники какого-либо крупного промышленного предприятия: 25% от необходимой суммы выплачивают они сами, а еще 25% – закладывает за них предприятие. На эти деньги ведутся строительные работы, и вскоре такой дом, уже как «вводный», может претендовать на первоочередное государственное кредитование. Но кто согласится заложить деньги за бюджетников?

Началось хождение по инстанциям, были посланы депутатские запросы так называемым «своим» депутатам. Примечательно, что каждый чиновник посчитал просто своим долгом «оказать помощь» работникам бюджетной сферы, правда, исключительно на словах.

Правду осмелился поведать только председатель Государственного комитета по делам молодежи А.Позняк. Оказывается, указ №185 А.Лукашенко от 14 апреля 2000 года «О предоставлении гражданам льготных кредитов на строительство (реконструкцию) или приобретение жилых помещений» **фактически вывел молодежь из числа претендентов на получение кредитов на строительство жилья.** И вывел на ближайшие 10 лет, как минимум. Так что «Медику», мол, еще повезло!

Поэтому смысла в дальнейшем хождении по инстанциям члены МЖСК-9 «Медик» не видят. Постепенно тают всякие надежды на получение злосчастного кредита. А некоторые участники строительства начинают подозревать, что в этом году их денежки имеют все шансы «уйти на выборы президента».

Таков типичный пример того, как строительство жилого дома превращается в «долгострой». Подобных ЖСК в одном только Жодино уже 23, а по стране – их тысячи. Ведь с 1996 по 2001 год из всей массы начавших строительство жилья только около 20 тысяч молодых семей вселились в новые квартиры.

Возникает закономерный вопрос: если цель государственного кредитования не только завоевание дешевой популярности, а действительное решение квартирного вопроса, то зачем изобретать велосипед? Квартиры должны сначала строиться, а затем уже продаваться в кредит под невысокий процент населению. Это главный и во всем мире применяемый способ.

***P.S.*** Перед самым выходом этой статьи председателю МЖСК-9 «Медик» из неофициальных источников стало известно, что их кооперативу обещают выделить кредит, на этот раз в размере 31 млн. белорусских рублей. Данной суммы хватит на 2-3 месяца нормальной работы. А дальше что? ■

# Няма для вёскі плана Барбаросы

Канстанцін СКУРАТОВІЧ

**А.Лукашэнка атрымаў ад адказных за стан сельскай гаспадаркі міністэрстваў і ведамстваў праграму аб яе рэфармаванні. У цэлым яна атрымала саноўнае «дабро», але напраўлена на дапрацоўку. З тым, каб урад унёс прапановы для стварэння прававай асновы па павышэнні эканамічнай эфектыўнасці галіны і, адпаведна, дабрабыту сялянства.**

Увесь гэты тлум ужо пракаментавалі дзяржаўныя спецыялісты і дзяржаўныя сродкі так званай масавай інфармацыі. Але ніхто ў асноўным засяроджваюць увагу на тым, што ім гаворыцца, і амаль не займаюцца аналізам. Ці часу бракуе, ці здольнасцяў. Прыкладам, кажуць ім, што стварэнне вертыкальна (любімае зараз слоўца) інтэграваных кампаніяў, «харчовых аб'яднанняў», аграфірмаў і фінансава-прамысловых групаў, занятых у вытворчасці канкрэтнага гатовага тавару. Па словах Аляксандра Папкова, які дакладаў пра гэты «план Даэрла», ён дасць да 2,3 трыльёна беларускіх рублёў штогадовага эфекту. А таксама з'явіцца магчымасць знізіць сабекошт прадукцыі на 25 працэнтаў. З гэтай нагоды так і хочацца працытаваць Хруна Маржова з перадачы НТБ «Гасіце святло!»: «Мощно задвинул, Ляксандра. Впечатляет!». Але можна і запытацца, дзе ж ты раней быў такі разумнік, калі вось так, на шматку паперкі, шаноўнаму нашаму сялянству можна паднесці такую процьму грошай. Як на тым сподачку з блакітнай шляўкай.

Карацей, залаты ключык. На жаль, гэтае багацце ўжо не дапаможа многім з тых, хто працаваў, як тата Карла. Бо, па падліках «праграмістаў», палова гаспадарак здольная працаваць без усялякай дапамогі, яшчэ 25 працэнтаў змогуць выжыць з невялікай падтрымкай, а астатнім ужо не дапамогуць ніякія грошы. Як кажуць, яны ўжо перайшлі ў іншую форму існавання матэрыі...

Абзацны зайдросны лёс лепшых гаспадарак ёсць толькі тэзіс смелай гіпотэзы, але вось тое, што чвэртку гаспадарак падчас пабудовы рынкавага сацыялізму дабілі да ручкі – гэта безумоўны факт. Што за гэтым стаіць? Гэта вёскі і вёсачкі амаль без людзей і без хатняй жывёлы. Таму на палі і фермы хадзіць някаму, за ўладу галасаваць таксама някаму. Калі гэтыя вёсачкі месціцца бліз буйных і не вельмі гарадоў, маюць паблізу аўтобус ці электрычку, то на іх былых землях месціцца незлічоная колькасць так званых дачаў. Калі ж дзе-небудзь у глыбінцы, то іх пустыя хаткі ўрастаюць у зямлі ці падпальваюцца рознай набрыддзю, якая шнырыць па Беларусі ў пошуках нечага, што яшчэ не паспелі скрасці. Знаходзяць не шмат, таму і паляць...

Што чакае гэтыя вёскі і вёсачкі. Як прынцыпова (ён жа у нас вельмі прынцыпіяльны) Лукашэнка – ў адносінах да «ляжачых гаспадарак» гатовы на любыя дзеянні ўключна асноўных фондаў і зямлі. Інакш кажучы, іх будуць прадаваць разам з жыхарамі кожнаму, хто возьме. Першым-лепшым стаў нямецкі прадпрымальнік гер Штотц, які купіў, кажуць, на вельмі льготных умовах смалявіцкі калгас «Ленінскі(!) шлях», чаму мясцовыя жыхары вельмі рады, бо ім паабяцаныя вельмі добрыя заробкі. Калі ўжываць аналогіі, то там, дзе па беларускай зямлі не магла прайсці і сотня танкаў Вермахта, сёння гер Штотц лёгка праязджае на «мерседэсе».

Але дарэмна Папкоў з Лукашэнкам радуюцца. Ніякага плана Барбаросы адносна беларускіх калгасаў у прыродзе не існуе. «Ленінскі шлях» таму прывабіў гер Штотца, што месціцца пад бокам нацыянальнага аэрапорта, дзе плануецца стварэнне свабоднай эканамічнай зоны. А гэта, калі ўсё будзе добра, абяцае пэўныя выгады.

Але ж выйсця няма, таму барацьба і татальная абарона супраць усяго свету пакінула нам толькі адзін паратунак. Трэба здавацца ў палон. Таму, хто возьме і будзе карміць. ■



ТЭНДЭНЦЫІ

# «Дурманяць» з усіх бакоў

Наталля РАДЗІНА

Напярэдадні Дня барацьбы з наркотыкамі 28 лютага прадстаўнік ААН у Беларусі Ніл Буне прэзентаваў даклад Міжнароднага камітэта па кантролі за наркотыкамі.

Паводле дадзеных галоўнага нарколага міністэрства аховы здароўя Уладзіміра Максімчука, сёння ў Беларусі афіцыйна зарэгістравана 7.000 наркаманаў. Аднак рэальная іх лічба намнога вышэй – каля 80 тысяч, у 37,2 раза больш, чым 10 гадоў назад. Толькі ў параўнанні з мінулым годам колькасць афіцыйна зарэгістраваных наркаманаў павялічылася на 26%.

Амаль палова хворых на нарkаманію – моладзь ва ўзросце да 25 гадоў. Значная частка з іх – навучэнцы школ, ПТВ і сярэдніх спецыяльных навучальных установаў, непрацуючыя і студэнты.

З гэтага не вынікае, што асноўным матывам уцягвання падлеткаў у спажыванне наркотыкаў становяцца нудота ці цікаўнасць апошніх. Прычыны, па якіх армія наркаманаў працягвае папаўняцца, хутчэй звязаныя з сацыяльна-культурнымі ўмовамі, якія склаліся ў краіне.

Цікавыя вынікі прынесла сацыялагічнае апытанне сярод школьнікаў, праведзенае ў мінулым годзе міністэрствам адукацыі. Аб даступнасці наркотыкаў сведчаць наступныя лічбы: 43% навучэнцаў заявілі аб тым, што ім прапаноўвалі марыхуану, і 28% – прапаноўвалі наркотыкі ў таблетках або ін'екцыях. Ва ўстановах адукацыі наркотыкі зараз ужываюць ад 9,3 да 18,9% навучэнцаў.

Пра некаторыя прычыны росту наркатычнай залежнасці распавёў і начальнік упраўлення нораваў і незаконнага абароту наркотыкаў МУС Мікалай Луканаў. Сёння Беларусь ператвораная ў транзітную зону нелегальнай транспарціроўкі наркотыкаў: опій, гераін, марыхуана, гашыш увозяцца з краінаў Азіі праз Расію для транспарціроўкі ў краіны Еўропы; макавая саломка – з Украіны як для ўжывання ўнутры рэспублікі, гэтак і для наступнага транзіту ў Расію.

Аднак, паводле словаў кіраўніка аддзела па барацьбе з кантрабандай наркотыкаў дзяржаўнага мытнага камітэта Уладзіміра Гарыфава, Беларусь паступова становіцца краінай не транзіту, а спажывання наркотыкаў. Гэта бачна нават па коштах: некалькі гадоў таму 1 грам гераіну каштаваў 100$, у 1999-м – 40-45$, зараз – каля 20$. ■

# Жыць усё больш вальготна

БелаПАН

Паводле звестак міністэрства статыстыкі і аналізу, за 2000 год насельніцтва Беларусі зменшылася на 29,3 тысячы чалавек – да 9.990,2 тысячы. За мінулы год у Беларусі нарадзілася 93.141 чалавек, памерла 134.517. Колькасць прыбыўшых у рэспубліку з іншых краінаў – 209.767, колькасць выбыўшых – 197.636. Міграцыйны прырост у 2000 годзе ў параўнанні з 1999-м знізіўся на 31 працэнт.

Натуральны спад насельніцтва назіраецца ў краіне з 1994 года. За апошнія 6 гадоў колькасць жыхароў скарацілася больш чым на 300 тысяч. Асноўнымі прычынамі смяротнасці жыхароў Беларусі лічаць былі хваробы сістэмы кровазвароту і новаўтварэнні. ■

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Праз акіян, да дзедаўскага краю

Дзіяна ЧАРАПОВІЧ

**Беларускі паэт Сяргей Грахоўскі прысвяціў мастакам Галіне Дакальскай і Мікалаю Пашкевічу верш «Доўгачаканыя лісты», выказаўшы ў ім сваю любоў да сяброў юнацтва і паведаўшы пра іх складаны эміграцкі лёс.**

Летам 1993 года ў Нацыянальным мастацкім музеі ў Мінску адбылася выстава работ мастакоў Галіны Дакальскай і Мікалая Пашкевіча, а таксама іх дачкі Аліі Клэч. Першы і адзіны раз за паўвека на Радзіму тады прыехалі і самі мастакі. На прэс-канферэнцыі, што адбылася ў музеі, Мікалай Пашкевіч гаварыў, што думаў пра цуд, калі ляцеў праз акіян. Цуд гэты быў для яго ўжо ў тым, што ён зноў убачыць мясціны, дзе нарадзіўся і стаў мастаком. Калі ў Мінску сустрэў цёплы прыём, убачыў ветлівыя твары сяброў маладосці, палічыў, што цуд адбыўся двойчы.

На сустрэчу тады прыйшлі мастак Валянцін Ціхановіч, пісьменнікі Васіль Вітка і Сяргей Грахоўскі. У далёкія 30-я гады Вітка і Грахоўскі працавалі ў газеце «Чырвоная змена» разам з маладой мастачкай і абаяльнай дзяўчынай Галінай Дакальскай. Да Галі кожны дзень забягала меншая сястрычка Бірута, будучая актрыса Беларускага Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Доўгія гады яна іграла на яго сцэне Паўлінку, стварала запамінальныя вобразы маладых сучасніц. Да Галі ў рэдакцыю таксама часта заходзіў тады ўжо вядомы мастак Мікалай Пашкевіч. На выстаўках каля яго карцін тоўпіліся аматары мастацтва.

Сяргей Грахоўскі, апавядаючы пра сябра маладосці, сведчыць: «Мікалай Пашкевіч быў найцікавейшым суразмоўнікам, яго эрудыцыя ў розных галінах мастацтва здзіўляла і захапляла мяне – юнака з мястэчковай адукацыяй. Пашкевіч ведаў сабе цану, але быў просты, дасціпны і вясёлы».

Вучыўся Мікалай Пашкевіч у Віцебскім мастацкім тэхнікуме, вядомым такімі выдатнымі майстрамі, як Пэн, Шагал, Волкаў, Юзовіч, скульптар Бразер. Удасканальваў сваё майстэрства ў Ленінградскай акадэміі мастацтваў. Ужо да вайны работы мастака экспанаваліся ў Мінску і Маскве. Пашкевіч адным з першых сярод беларускіх мастакоў быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

У Мінску ў 1993 годзе мастакі сустрэліся не толькі з сябрамі, але і са сваімі даваеннымі творамі. Сустрэча гэта была нечаканай, але прыемнай, быццам сустрэча з маладосцю. І хоць, напрыклад, сюжэт «Чорнай карціны», як назваў яе аўтар, здаецца сёння кан'юнктурнай (на ёй адлюстраваны допыт партызана белапалякамі), Мікалай Аляксандравіч не адмаўляецца ад яе, лічыць, што галоўнае ў мастацтве – мастацкая вартасць. «А «Чорная карціна» мае некаторую вартасць», – сціпла сказаў ён.

Галіна Дакальская таксама вучылася ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме. Але пачатак яе жыццёвага шляху быў нялёгкім. Радаводны корань Дакальскіх быў у Літве. Яе бацька – віленскі друкар камуністычнага падполля, памёр у 1919 годзе ад сухотаў. Галю і яе сястру Біруту ўзялі гадаваць цёткі, а маці пайшла на настаўніцкія курсы. Наркамат асветы накіраваў Антаніну Казіміраўну Дакальскую на Беларусь, у літоўскую школу ў Дубровенскім раёне. А ў 1933 годзе былую падпольшчыцу, дубровенскую настаўніцу Антаніну Дакальскую арыштавалі за тое, што нарадзілася ў Літве, што выкладае незразумелую мову, і засудзілі на пяць гадоў няволі. Абедзве яе дачкі сталіся сіратамі. Праз пяць гадоў маці вярнулася, у Мінску жыць ёй не дазволілі, пасялілася ў Оршы.

Вайна стала трагедыяй для ўсёй сям'і Пашкевічаў-Дакальскіх. Бірута ў пачатку чэрвеня 1941 года выехала з тэатрам на гастролі ў Адэсу, пакінуўшы з маці і сям'ёй сястры сваю трохгадовую дачку. Іх жа вайна заспела ў Пухавічах. Мікалая Аляксандравіча немцы ледзь не расстралялі, нібыта за сувязь з партызанамі. Выратавала яго Антаніна Казіміраўна, яна ведала нямецкую мову і расказала каменданту, што яе зяць вядомы мастак. Той захацеў у гэтым пераканацца, загадаў прынесці падрамнік і фарбы і пачаў пазіраваць. Партрэт спадабаўся. І тады ледзь не кожнаму афіцэру захацелася, каб яго ўвекавечыў беларускі мастак. Ганарары плацілі пераважна натураю. Каб неяк існаваць, Галіна і Мікалай малявалі іконкі, партрэты, пейзажы.

Калі фронт наблізіўся да Беларусі, заставацца тут было небяспечна. Пашкевіч разумеў, што яго чакае за партрэты і іконкі. Трэба было ратаваць цяжарную Галю, маленькую пляменніцу, дачку Біруты і немаладую Галіну маму. У Каўнасе жыла цётка, сястра Антаніны Казіміраўны. Да яе і накіраваліся пад бамбёжкамі, праз спаленыя вёскі. У Каўнасе з'явілася на свет дачка Пашкевічаў Алія. Але вайна хутка кацілася на Захад, і ўцекачы разумелі, што ім трэба рухацца падалей ад дому. Логіка ў той час была простая: немцы не расстралялі, значыць здраднік. У лепшым выпадку сашлюць у Сібір.



Галіна і Бірута Дакальскія і Мікалай Пашкевіч

Выступаючы перад землякамі ў час свайго адзінага прыезду ў Беларусь, Мікалай Пашкевіч гаварыў: «Для нас эміграцыя была вымушанай, без усялякай нашай віны перад народам. Але аж да смерці Сталіна мы жылі за акіянам і баяліся, хацелі, каб пра нас проста забыліся».

У 1944 годзе праз Балтыку М.Пашкевіч і Г.Дакальская дабраліся ў Германію, а адтуль у Злучаныя Штаты. Прыехалі ў Нью-Йорк, без багажу і без грошай. Мікалай Пашкевіч мыў талеркі ў рэстаране, у вольны час маляваў. Тут і заўважыў яго архітэктар, запрасіў да сябе ў майстэрню. Галіна знайшла работу на фарфоравай фабрыцы, дзе распісвала кубачкі і сподкі. Паступова сям'я выбівалася з беднасці. Купілі дом, з'явілася магчымасць займацца творчасцю. У іх карцінах, графічных работах – пейзажы далёкай і любай сэрцу Беларусі, якую яны заўсёды лічылі сваёй адзінай радзімай.

Тады ж, у пачатку 90-х гадоў, з М.Пашкевічам і Г.Дакальскай завочна пазнаёміўся мастак Аляксей Марачкін. Ён атрымаў ад іх рэпрадукцыі, альбомы і праспекты, рабіліся спробы арганізаваць у Мінску выставу іх работ. А.Марачкін пісаў тады пра М.Пашкевіча: «...перада мной незвычайны, арыгінальны мастак са сваім светаўспрыманнем і светапоглядам. Калі ў Галіны, ягонай жонкі, не без уплыву французскага імпрэсіянізму, нацюрморты, краявіды і партрэты, то ў Міколы па сваім настроі і глыбіні – творы філасофскага роздуму з нейкім асаблівым пачуццём драматызму...»

Намаганнямі А.Марачкіна, альбомы з рэпрадукцыямі работ М.Пашкевіча і Г.Дакальскай у Мінску выйшлі, так што пры жаданні можна пазнаёміцца з імі і атрымаць ўяўленне пра творчасць таленавітых беларускіх мастакоў. ■

ТЭАТР

# «Вечар» ад «Вольнай сцэны»

Ірына ТОЎСЦІК

Купалаўская сцэна 27 лютага прыняла на сваіх падмостках акцёраў «Вольнай сцэны» на чале з Аляксеем Дударавым, мастацкім кіраўніком тэатра, і Валерыем Мазынскім, рэжысёрам-пастаноўшчыкам.

Гледачам была прадстаўленая драма «Вечар» у дзвюх частках паводле аднайменнага твора драматурга Аляксея Дударава, які напачатку спектакля ўзяў слова. А.Дудараў нагадаў, што дзесяць гадоў таму пры беларускім саюзе тэатральных дзеячаў быў утвораны тэатр-студыя «Вольная сцэна», які ачоліў заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Валеры Мазынскі. Назву «Вольная сцэна» першапачаткова як эксперыментальнай студыі тэатр атрымаў нефармальна, неафіцыйна, але ўдала замацаваў за сабой. Нядаўна ж, па вядомых усім прычынах з Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі (такая афіцыйная назва «Вольнай сцэны»), вымушаная была сысці пэўная колькасць акцёраў разам з Валерыем Мазынскім, які быў мастацкім кіраўніком тэатра на працягу дзесяці гадоў, іншымі словамі, увесь час яго існавання. В.Мазынскі вырашыў стварыць новую студыю з вернымі сваёй справе акцёрамі.

Нягледзячы на перашкоды, В.Мазынскаму ўдалося задуманае. Пацверджанне гэтага – удалая пастаноўка «Вечара»(зробленая, дарэчы, за паўтара месяца), якая сталася пачаткам дзейнасці «Вольнай сцэны» як тэатра, які, трэба сказаць, ужо мае ліцэнзію. Спектакль не ёсць прэм'ерай, бо ўжо ставіўся на Купалаўскай сцэне. Гэта – спектакль-прысвячэнне, наладжаны памяці акторам, майстрам Купалаўскага тэатра – Стэфаніі Станюце, Галіне Макаравай, Генадзю Аўсяннікаву, Генадзю Гарбуку, Барысу Дубашырскаму.

Сама драма «Вечар» асуджаная на поспех праз сваю тэматыку і дасціпнасць. У закінутай вёсцы Вешкі дажываюць сваё жыццё забытыя сваімі дзецьмі старыя людзі, якія прайшлі вайну, пакуты, але так і не знайшлі душэўнага спакою. Галоўных герояў – Мульціка, Гастрыта і Ганну ўвасабляюць на сцэне Аляксандр Ткачонак, Мікалай Кучыц і Тамара Міронава. Дзейныя асобы драмы – тыповыя жыхары беларускай згібелай вёскі, якія жывуць надзеяй вяртання сваіх сыноў у родныя мясціны. Кожны з трох герояў прайшоў свой шлях і цяпер, на жыццёвым захадзе, вечара, асэнсоўвае, разумеючы яго марную сутнасць.

Спектакль пастаўлены ў вытрыманай класічнай форме. Як і патрабуе змест драмы – на фоне чыста беларускага ладу жыцця ўзнікае канфлікт, трагедыя «разбітых» лёсаў людзей, іх светаўспрымання. На доціпах, якія з'яўляюцца падмуркам філасофіі вясковых жыхароў, пабудаваны каркас «Вечара». Тэма перапляцення трапных выразаў з драмай жыцця герояў здаецца знаёмай і вычарпанай, але...

Апладысменты не сціхалі хвілінаў дзесяць, што азначае – тэатру жыць.

«Вольная сцэна» разам з В.Мазынскім і А.Дударавым пакуль будзе працаваць у сценах Дома ветэранаў. Рыхтуецца прэм'ера. ■



# Аляксандр Зімоўскі запужвае гледача

БелаПАН

Спецвыпуск праграмы «Рэзананс», якая выйшла ў эфір Беларускага тэлебачання вечарам 28 лютага, быў прысвечаны выкрыванню амерыканскай рэзідэнтуры, якая дзейнічала ў Беларусі быццам бы пад дыпламатычным прыкрыццём.



Па словах Аляксандра Зімоўскага, раней галоўным кірункам дзейнасці амерыканскіх разведчыкаў была агентурная.

У прыватнасці, быў згаданы Цімаці Ховард, які працаваў першым сакратаром пасольства да 1995 года. «У ліку яго праколаў, прычым задакументаваных, была вярбоўка супрацоўніка аднаго з навукова-даследчых устаноў, – паведаміў вядучы «Рэзананса». – Ховард неаднаразова праводзіў са сваім агентам сустрэчы ў Мінску і наваколлях беларускай сталіцы. Падчас гэтых сустрэчаў агент атрымліваў заданні па збору інфармацыі, якая складала дзяржаўную тайну, іншых сакрэтных тэмах, звязаных галоўным чынам з абароннымі аспектамі дзейнасці Беларусі і іншых краінаў СНД, якія ўваходзяць у Дагавор аб калектыўнай бяспецы. Калі агент быў арыштаваны, замежны дыпламат пакінуў Беларусь».

Працу Ховарда па вядзенні агентурнай дзейнасці, паводле звестак А.Зімоўскага, працягваў кадравы супрацоўнік ЦРУ Серж Аляксандраў, які «на працягу доўгага часу займаўся падрыхтоўкай маршрутаў тайнага перамяшчэння па Мінску, вызначаў месцы сустрэчаў і кантактаў з агентурай». «Для таго, каб матываваць свае паездкі і перамяшчэнні па горадзе, якія адбываліся пераважна ў вячэрні і начны час, Аляксандраў часта паводзіў сябе як вялікі аматар да жанчын, – гаворыць вядучы. – Ва ўсякім выпадку, на сядзенні яго машыны пабывалі нямала адзінокіх начных спадарожніц».

Найбольшая ўвага ў спецвыпуску «Рэзананса» была нададзеная дзейнасці – быццам бы ў якасці рэзідэнта ЦРУ – першага сакратара палітычнага аддзела пасольства Цімаці Кейна, які, як сцвярджаецца, аддаваў перавагу працы ў маладзёжным асяроддзі і некалькі разоў спрабаваў разгарнуць вярбовачную дзейнасць. У якасці доказу тэлегледачам былі паказаны відэаматэрыял допыту нейкага маладога чалавека, які пазнаў на прапанаваных яму здымках дыпламата, з якім ён сустракаўся ў амерыканскім пасольстве.

Малады чалавек расказаў пра тое, як замежны грамадзянін даваў яму грошы на кішэнныя расходы, высвятляў, дзе працуюць бацькі і ці не звязаныя яны з КДБ, як агаворваліся меры перасцярогі падчас сустрэчаў у горадзе і кодавыя словы для тэлефонных размоваў. Кейн, паводле інфармацыі Зімоўскага, ужо паехаў з нашай краіны.

Падводзячы вынікі, вядучы праграмы запэўніў тэлегледачоў у тым, што беларускім спецслужбам ёсць што супрацьпаставіць дзейнасці замежных спецслужбаў. Што канкрэтна – ніхто не ведае. ■

КАНФЕСІІ

# Новыя варвары цешацца рубінаваннем

Віктар ТУМАШ

Лідэр Талібана Мохамад Амар прыняў рашэнне знішчыць статуі Буды, якія ёсць у Афганістане. На яго думку, гэта нельга трактаваць інакш, чым простае «разбіццё камянёў». Захаванне скульптураў супярэчыць сутнасці ісламу, заявіў ён у інтэрв'ю аднаму з агенцтваў талібаў. «Іх разбурэнне – заклік ісламa, – сказаў Амар. Таму рэжым талібаў прыняў рашэнне, якое абвяшчае кожную статую абразай ісламу. «Бог адзіны, а гэтыя статуі пастаўлены для пакланення, што ёсць памылка, – паначана ў дэкрэце, падпісаным лідэрам талібаў. – Яны павінны быць разбураныя, каб не заставацца аб'ектам культу ні цяпер, ні ў будучыні». Дэкрэт паначае, што трэба шанаваць толькі Алаха.

Сярод скульптураў, якім пагражае знішчэнне, – дзве гіганцкія статуі Буды ў Баміяне, прылічаныя да культурнай спадчыны ўсяго чалавецтва. Гэта самыя вялікія вывы Буды ў свеце, яны маюць вышыню адпаведна 55 і 38 метраў. Іх высеклі ў скале ў першым тысячагоддзі нашай эры, мяркуюць, што каля V стагоддзя, калі ісламу яшчэ не існавала. Цяпер гэтыя скульптуры знаходзяцца ў самым цэнтры Афганістана, у 150 км ад Кабула. Побач з імі вырас горад Баміян. Скульптуры, якія спакойна прастаялі паўтары тысячы гадоў, ужо пацярпелі ў выніку абстрэлаў з ручной зброі, якія даюць варварскае задавальненне талібам. Аднак вядомая замілаваная ўсмешка Буды яшчэ захавалася. Унікальнасць скульптурам надае таксама адзенне Буды – грэчаскія тунікі.

Занепакоенасць рашэннем талібаў знішчыць помнікі даісламскай культуры Афганістана выказаў генеральны сакратар ААН Кофі Анан. Ад імя Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў ён звярнуўся да ўсіх бакоў афганскага канфлікту забяспечыць абарону культурнай і гістарычнай ісламскай і неісламскай спадчыны краіны, захаваць незаменныя рэліквіі Афганістана – дзеля будучыні, якая будзе болей мірная і цярпімая. Па словах Кофі Анана, знішчэнне помнікаў старажытнасці толькі падоўжыць спіс праблемаў, з якімі сутыкаецца ўрад Афганістана: адраджэнне краіны, аднаўленне сацыяльнага жыцця, спыненне пакутаў і бедстваў афганскага народа. З пратэстамі супраць варварскага рашэння выступіў таксама ўрад Францыі, які заклікаў талібаў адмовіцца ад гэтай задумы. Лідэр талібаў адказаў, што рашэнне пра зруйнаванне «камянёў» неадваротнае. ■

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



СПОРТ

## Тры супраць пяці

Аляксей СТАЎСКІ

У рашаючую стадыю – розыгрыш кубка Усходне-Еўрапейскай хакейнай лігі перайшлі спаборніцтвы на гэтым турніры. Нагадаем, што ліга складаецца з камандаў-прадстаўніцаў Украіны, Беларусі, Літвы, Латвіі. Яны ў чатыры кругі спачатку разыгралі тытул пераможцы рэгулярнага сезона, ім стаў кіеўскі клуб «Беркут», і вызначылі васьмёрку лепшых, якія зараз шляхам плэй-оф і вызначаць адзінага пераможцу. У гэтую васьмёрку трапілі і тры беларускія каманды. Лепшая з іх гродзенскі клуб «Нёман» згуляе серыю да дзвюх перамог з хакейным клубам «Рыга».

Наваполацкі «Палімір» таксама пазмагаецца з латышамі, камандай «Металургс» з Ліепаі, а адзіная застаўшаяся яшчэ ў жывых сталічная каманда ХК «Мінск» праўдзе гульні на вылет з кіеўскім «Сокалам». Яны адбудуцца трэцяга, шостага і, калі спатрэбіцца, 7 сакавіка. Пераможцы пар (а яшчэ адну складаюць украінскія каманды «Кіеў» і «Беркут») пасля, пачынаючы з адзінаццатага сакавіка, зггуляюць у паўфінале. ■

## У лідэрах толькі чэмпіёны

Уладзімір ДАЎЖЭНКА

У сорак чацвёрты раз мацнейшыя шашысты планеты аспрэчваюць тытул лепшага на чэмпіянатах свету па стаклетачных шашках і восем разоў – гэта рэкорд – пераможцам станавіўся Аляксей Чыжоў з Іжэўска.

Хутчэй за ўсё ён і з'яўляецца прэтэндэнтам нумар адзін на перамогу ў сусветным першынстве, якое зараз праходзіць у Маскве. З самага першага тура Чыжоў узначальвае турнірную табліцу і на гэты момант мае ў актыве пяць перамог і толькі адну нічыю. На жаль, прайграў яму яшчэ адзін славуты шашыст, які чатыры разы валодаў ганаровым званнем, мінчанін Анатоль Гантварг.

Ён у шасці турах здолеў набраць пяцьдзесят працэнтаў ачкоў (перамога, параза і чатыры нічые). Дарэчы, у апошнім паядынку Гантварг падзяліў ачкі з масквічом Андрэем Калмаковым, які яшчэ тры гады таму жыў у Беларусі. У лідэра зараз пяць з паловай ачкоў, і ён на ачко апярэджвае яшчэ аднаго чэмпіёна свету – Гунціса Валнерыса з Латвіі і ажно на два – яшчэ таксама ўладальніка гэтага ганаровага тытула Роба Клерка з Нідэрландаў. ■

## На біятлонным фронце без пераменаў

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

У амерыканскім горадзе Солт-Лэйк-Сіці распачаўся чарговы этап кубка свету па біятлоне, які зноў пакуль што не прынёс нам ніякіх добрых навінаў. Ніводзін з беларусаў не трапіў нават у дзесятку ў індывідуальных гонках. Прычым у жанчын наша Кацярына Грыгор'ева супервыдатна адстралялася, на чатырох рубяжах не прамахнуўшыся ні разу, і ўсё ж не менш у выніку стала толькі дваццаць чацвёртай. Нядрэнна ішла па трасе Людміла Лысенка, але яе падвяла якраз стральба. А перамагла, здагадайцеся хто? Правільна, Магдалена Форсберг з Швецыі, якой у прынцыпе ўжо зараз можна браць гэты самы кубак свету і везці дадому, бо рэальна ніхто яе не дагоніць.

У мужчын беларусы павязлі ў сталіцу будучай алімпіяды напаўамаладжаны склад каманды, і гэта, верагодна, правільнае рашэнне.

А выніку ў нашых такія: трыццаты Рустам Валіулін, дваццаць чацвёрты Аляксандр Сыман, дзевятнаццаты Вадзім Сашурын. Асаблівая крыўда, што да апошняга агнявога рубяжа Сашурын ішоў у шасцёрцы лідэраў, але затым допусціў два промахі і выляцеў з лідзіруючай групы. Перамог на этапе нарвежац Оле-Эйнар Б'ёрндален, які прадпрыняў апошнія спробы дагнаць Рафаэля Пуарэ ў агульным заліку кубка свету.

У суботу ў Солт-Лэйк-Сіці пройдуць спрынтэрскія гонкі, а ў нядзелю — гонкі праследу. ■

## Валчкоў-Мірны: супрацьстаянне-2001





Аляксей ЗУБРОЎСКІ

Менавіта такім загалоўкам можна акрэсліць тое змаганне за гонар звацца першай тэнісной ракеткай Беларусі двух вядучых беларускіх тэнісістаў Максіма Мірнага і Уладзіміра Валчкова. І трэба прызнаць, гэтая канкурэнцыя дае плён. Апошнім часам абодва нашы прадстаўнікі ў сусветнай тэніснай эліце пачалі раз-пораз паказваць даволі сенсацыйныя вынікі, а Валчкоў дык увогуле ўскарабкаўся на васемнаццатую прыступку сусветнага тэніснага рэйтынгу (Мірны пакуль што трыццаць чацвёрты, што таксама вельмі нябдага).

І вось працяг беларускай дуэлі, на гэты раз у вочным варыянце, адбудзецца на турніры ў сталіцы ААЭ Дубаі з прызавым фондам у мільён долараў.

Мы ўжо пісалі пра тое, што **Максім Мірны ў першым крузе перамог «сеянага» (што заўсёды з'яўляецца ўчынкам з вялікай літары) Сэдрыка П'яліна з Францыі. Прагнулі перамажное беларускае шэсце і Уладзімір Валчкоў, які адправіў дадому ў Румынію прадстаўніка гэтай краіны Адрыяна Іліэ. Цяпер беларусы згуляюць паміж сабой, а пераможца накіруецца ў чвэрцьфінал гуляць з пераможцам пары Кафельнікаў (Расія) – Ёхансан (Швецыя).**

***P.S.*** **Стала вядома, што Макс Мірны перамог у 1/8 фіналу Уладзіміра Валчкова — 6:1, 6:4 і ў чвэрцьфінале пазмагаецца з Томасам Ёхансанам, які здолеў выбіць з турніру Кафельнікава. Не так даўно Мірны ўжо перамагаў яго. Як тое будзе зараз?** ■

# Больной и мстительный

## Заметки на полях истории болезни Сталина

Борис ИЛИЗАРОВ

**48 лет назад, 5 марта 1953-го, скончался Иосиф Сталин. Его личный архив почти полвека тайно хранился за кремлевской стеной. Ниже публикуются фрагменты готовящейся к печати книги доктора исторических наук Бориса Илизарова «Сталин. Историософия сталинизма», основанной на архивных и других малоизвестных широкому читателю документах.**

Впервые я увидел собственными глазами посмертный слепок с лица и головы Сталина в середине семидесятых годов в его музее в Гори. Бросился в глаза заостренный подборок и удлиненный в затылке маленький череп под тщательно зачесанными после смерти волосами.

Между тем на портретах и фотографиях Сталин выглядит совершенно иначе. Объясняется это тем, что он сам отбирал свои фотографии для публикации. Что касается его портретов и скульптурных изображений, то советские мастера искусств очень быстро сообразили, что можно убрать или добавить к облику вождя, чтобы народы СССР легко признали в нем свой идеал «друга, отца и учителя». Сталинский подбородок, имевший уходящую линию, выдвигали вперед. Оспин и сутулости не замечали.

Скульптор Мария Рындзюнская одной из первых получила возможность запечатлеть вождя с натуры. Вот как она вспоминала о первой встрече с ним в здании ЦК в конце лета 1926 года.

«Меня встретил человек среднего роста, с очень широкими плечами, крепко стоящий на двух ногах... Повторяю, среднего роста, на двух ногах, крепко стоящего человека».

За исключением широких плеч (обманули ватные подкладки кителя) Рындзюнская уловила характерную особенность облика Сталина. Фотографии и кадры кинохроники наглядно передают странную «двуногость» вождя. В кадрах кинохроники он идет по кремлевскому двору с группой соратников характерной походкой — две ноги словно самостоятельно несут слегка наклоненное вперед малоподвижное туловище с неестественно торчащей из кармана пальто левой рукой.

Эти особенности связаны с тем, что у Сталина был широковатый для мужчины таз (отсюда длинные полы френча), его мучили сильные мышечные боли, сковывавшие движения, у него были непропорционально длинные и узкие ступни ног, а, главное, сросшиеся пальцы на левой ноге. Не случайно до войны в народе бродила молва о том, что у кремлевского правителя сросшиеся на ноге пальцы — признак сатанинского копыта. А булгаковский Воланд, окруженный членами своего куда более симпатичного «Политбюро», просит Маргариту растереть покалеченную при изгнании с небес левую ногу.

В архиве Сталина хранятся его медицинские карты, выписки из историй болезни, результаты различных анализов, обследований. Из этих документов следует, что кремлевские врачи знали об анатомических особенностях вождя уже в двадцатые годы. В его медицинской карте записано: «Сращивание пальцев левой ноги». Кроме того, отмечено, что не были в порядке и пальцы правой ноги: первые два пальца неестественно разогнуты, со сморщенными утолщенными ногтями бурого цвета.

В 1926 году кремлевские врачи отмечают у Сталина небольшую атрофию мышц левого предплечья. Жалобы на общую усталость, на боль в пальцах левой руки и на новую напасть — изнурительный понос. В начале 1927-го, когда Сталин был на пороге политического триумфа — разгрома своих основных врагов, бывших соратников Ленина, — врачи фиксируют приступ хронической ангины, считая ее причиной обострения ревматических явлений, и ставят дополнительный диагноз: «миалгия и артрит левой верхней конечности». Левая рука Сталина, пораженная этой болезнью, к 1928 году была в два раза слабее правой, а в последующие годы Сталин с трудом поднимал ею что-нибудь тяжелее трубки или папиросы. Судя по записям врачей, вождь постоянно чувствовал хруст в коленях, в области лопатки и в шее при повороте головы, его мучили боли в мышцах — миальгия или ее разновидность — мышечная дистрофия в форме болезни Эрба.



В 1923 году Сталин пожаловался, что в моменты усталости забывает имена, а также иногда испытывает головокружения. Если уж скрытный хозяин Кремля счел нужным сообщить об этом врачам — процесс зашел так далеко, что самостоятельно с ним справиться он уже не мог. Все это происходило в самом начале борьбы с так называемой троцкистской оппозицией. Врачи тогда определили признаки неврастении и подтвердили диагноз в 1929-м и 1930-м. Признаки, отмеченные врачами, соответствуют клинической картине: переутомление и забывчивость, повышенная раздражительность и калейдоскопическое переключение с одного мероприятия на другое, и в то же время — подавленное состояние в конце рабочего дня. Для Сталина это вторая половина ночи, когда он с соратниками, а фактически — единолично принимал важнейшие государственные решения.

Приступы неврастении отчасти объясняют и патологическую подозрительность вождя. Большую часть своей «кремлевской» жизни он боялся быть отравленным. Если в первые генсековские годы Сталину, как и всем членам правительства, приносили еду из столовой Совнаркома, то во второй половине двадцатых он стал требовать, чтобы готовили пищу дома. Тогда же он перестал покупать лекарства в кремлевской аптеке на свое имя.

**В 1934-1936 гг. одним из постоянных лечащих врачей Сталина был терапевт М.Шнейдерович. Впоследствии он вспоминал, как Сталин спросил его: «Доктор, скажите, только говорите правду: у вас временами появляется желание меня отравить?» Растерянный врач молчал. Тогда Сталин сокрушенно заметил: «Вы, доктор, человек робкий, слабый, никогда этого не сделаете, но у меня есть враги, способные это сделать». Профессор Валединский, лечивший Сталина, вспоминал, что 5 января 1937 г. во время застолья по случаю очередного своего выздоровления, Сталин «говорил об успехах советской медицины, но тут же заметил, что среди врачей есть враги народа».**

После самоубийства жены в 1932 году вождь так основательно «законспирировался» в Кремле и на дачах, окружил себя столь плотным кольцом охраны, что заподозрить в подготовке реального покушения на себя мог только своих врачей и соратников. Первый «врачебно-бухаринский» процесс 1938 года закончился казнями и многолетними сроками заключения. Среди прочих расстреляли профессоров И.Н. Казакова и Л.Г. Левина; к десяти годам приговорили профессора Д.Д. Плетнева, которого впоследствии, впрочем, тоже казнили. Плетнев до ареста говорил своим близким и ученикам, что считает себя обреченным, поскольку «слишком много знает».

Не исключено, что по приказанию Сталина был отравлен и крупнейший отечественный психиатр академик В.М. Бехтерев, который в декабре 1927 года поставил Сталину диагноз — паранойя. Видимо, старый профессор подзабыл, что диагноз нужно ставить не всякому пациенту. Хорошо осведомленные эмигрантские деятели Н.Вольский (Валентинов) и В.Суварин в 1953 г. опубликовали работу, в которой, называя Сталина московским Калигулой, сообщили, что и Плетнев, и Левин поплатились жизнью именно за подтверждение этого диагноза.

Война вызвала у вождя новые нервные потрясения и способствовала обострению застарелых болезней. Вот что пишет в воспоминаниях о событиях, произошедших во время единственной поездки Сталина на фронт в 1942 г., его бывший соратник Анастас Микоян:

**«...Верховный Главнокомандующий ни разу не выезжал на фронт!.. Зная, что это выглядит неприлично, он однажды, когда немцы уже отступили от Москвы, поехал по Минскому шоссе, поскольку оно использовалось нашими войсками и мин там уже не было. Однако не доехал до фронта, может быть, пятидесяти или семидесяти километров. В условленном месте его встречали генералы (не помню кто, вроде Еременко). Конечно, отсоветовали ехать дальше, поняли по его вопросу, какой совет он хотел услышать... Такой трус оказался, что опозорился на глазах у генералов, офицеров и солдат охраны. Захотел по большой нужде (может, тоже от страха? – не знаю) и спросил, не может ли быть заминирована местность в кустах, возле дороги. Конечно, никто не захотел давать такой гарантии. Тогда Верховный Главнокомандующий на глазах у всех спустил брюки и сделал свое дело прямо на асфальте. На этом «знакомство с фронтом» было завершено, и он уехал обратно в Москву».**

Судя по приведенному эпизоду, вождь и в тот период страдал обычным для себя расстройством желудка. Как свидетельствуют медицинские карты, в пору войны его по нескольку раз в году изводили инфекционные болезни. Спайки в кишечнике давали дополнительные ощущения внутреннего напряжения и дискомфорта. Болезни подстегивали подозрительность. Подозрительность обостряла приступы неврастении. Год от года он все больше опасался за свою жизнь и за власть. Страх сублимировался в невероятную, холодную, сверхчеловеческую жестокость, которая в свою очередь привела к душевной омертвелости. Он не боялся быть жестоким и не стеснялся им прослыть. В сталинской «Краткой биографии», к которой приложил руку сам вождь, ни разу не говорится о его доброте или великодушии, зато не единожды подчеркивается его нетерпимость и беспощадность к врагам. Он не стыдился быть, по выражению Хрущева, «государственным убийцей».

**...В начале 1952 года изнуренный приступами хронических болезней Сталин вызвал одного из кремлевских медицинских светил профессора В.Н. Виноградова. Осмотрев пациента, врач пришел к выводу: его организм полностью изношен, он должен немедленно отойти от дел и серьезно заняться своим здоровьем. Сталин пришел в ярость и приказал Берии разобраться с Виноградовым. Вскоре началось знаменитое «дело врачей», конец которому положила лишь смерть кремлевского пациента.** ■

og.ru

Галоўны рэдактар Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі.
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана ў друкарні УП «Мэджык»
г. Мінск, ул. Кнорына, 50. Заказ № 207 Нумар падпісаны ў друк 1/01/2001 (18.00) Наклад – 10.380

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014